

# Ніва



ГОД I № 17 БЕЛАСТОК, 24 ЧЭРВЕНЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.

## МЫ ВЕРЫМ...

Згодна са статутам зацверджаным на І-шым Арганізацыйным З'ездзе БГ-КТ і пастановай Прэзідыума Галоўнага праўлення — ў паветах: Беластоцкім, Бельскім, Гайнаўскім, Семятыцкім, Сакольскім — нашага ваяводства і, у горадзе Варшаве адбыліся ўжо З'езды прадстаўнікоў беларускага насельніцтва.

Ужо ў перыяд падрыхтоўкі да З'ездаў, Арганізацыйныя Камітэты разгарнулі шырокую працу ў асяроддзях беларускага насельніцтва распаўсюджваючы статуты Таварыства, праводзячы гутаркі з рабочымі і сялянамі аб заданнях і мэтах Таварыства.

Як доказ вялікага ўкладу працы Арганізацыйных Камітэтаў, з'яўляюся шматлікі ўдзел дэлегатаў у З'ездах, і бурлівыя спрэчкі.

Гаварылі яны аб забастоўках і супольнай барацьбе польскага і беларускага народаў супроць таго самага ворага — абшарнікаў і капіталістаў, а таксама гітлераўскага акупанта. Шмат часу прысвечана развіццю беларускай культуры і асветы. Тым не менш спрэчкі ва ўсіх паветах згуртоўваліся вакол праблемы актыўнага і дзейнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве ў нашай краіне, а перадусім развіццю калектыўнай гаспадаркі. У гэтым напрамку апрацавана і зацверджана пастановы, да рэалізацыі якіх ужо прыступілі праўленні Аддзелаў.

Кіруючыя пастановамі З'езду, праўленне ў Саколцы сумесна з Аддзелам асветы Павятовай рады нарадовай абмеркавала справу размяшчэння маладых настаўнікаў, якія прыдуць тут працаваць пасля сканчэння Педагагічнага Ліцэя ў Бельску. Прынята таксама пастанову аб працы ў паасобных беларускіх асяроддзях накіроўваючы туды актыў таварыства, які будзе працаваць над пашырэннем радоў таварыства і ажыццяўленнем яго мэт і задач.

Значнай актыўнасцю вызначаецца Варшаўскі Аддзел БГ-КТ. Як асноўную мэту таварышы з Варшавы паставілі сабе арганізацыю факультэта беларускай філалогії пры Варшаўскім Універсітэце. Пры выдатнай дапамозе Галоўнага праўлення гэтую справу ўжо абмеркавана ў Міністэрстве вышэйшых навучальных устаноў. У сучасны момант Галоўнае праўленне звярнулася з просьбай у Міністэрства Культуры БССР дзеля прыслання з Мінска навуковых работнікаў у гэтай галіне, якія праводзілі-б занятк са студэнтамі.

Заданні перад Павятовымі праўленнямі, вялікія і адказныя. Асабліва ў пачатку нашай дзейнасці трэба звярнуць увагу на пашырэнне радоў таварыства і распаўсюджванне яго органа — часопіса „Ніва". Праўленні Аддзелаў павінны дабіцца таго, каб кожны член таварыства быў чытачом і падпісчыкам часопіса „Ніва".

Мы горача верым, што пры актыўнай дапамозе ўсяго беларускага насельніцтва, гэтыя заданні выканаем з гонарам.

Сакратар
Галоўнага праўлення БГ-КТ
Аляксей Казёл



Бяленне палатна ў вёсцы Казлы. Фота — Ю. Лей

## Лён

Пасеяла лён,
Села да красён.
Толькі стала кужаль ткаці,
Пачало дзіцё крычаці.
Уставай ад красён!
Люлі, мой Антон...
Не прыходзіць сон.
Стала ткаці — калыхаці,
Пачало ягнё бляяці,
Бяжыць ад красён.
Клікаў бабу лён,—
—Уставай ад красён!
Трэба ткаці, ды палоці,
А тут свінні ў балоце
П'яніца Лявонь.
Устала ад красён,
Йдзе палоці лён.
Зелле рвала аж да ночы,—
Заплылі слязамі вочы.
У ільне спаў Лявонь.
Прайшло многа дзён,
Даспеў у полі лён.
Трэба рваці, ды сушыці,
Павязаці, абабіці
На таку прачом.
Біла баба лён
На таку прачом.
Пабіла, ды павязала,
Мачыла і высцілала,
Звязала прад дажджом.
Завурчэў Лявонь:—
Бабы ломляць лён.
На плячах сама насіла,
На печы ўвесь пасушыла.
Ён, — гнаў самагон.
Праз некалькі дзён,
Паламала лён.
Бочку хутчэй прыкаціла,
Усю каросту абабіла,
Грабовым кіём. . .
Чэша баба лён,
Сядзіць за сталом.
Пачасала за нядзелю. . .
Накруціла сто кудзеляў,
Села прасці лён.
Начамі і днём.
Прала, на талькі звівала,
Усё кудзелю цалавала,
Начамі і днём.
У хаце пад вакном,
Красіць баба лён.
Усе талькі пафарбавала,
На клубочкі пазвівала. . .
Папіваў Лявонь. . .
Пакаціўся лён
Чырвоным клубком.
Дзяўчаты, ды маладзіцы
У хату прынеслі снаўніцу,
Снуе баба лён,
Баба снуе лён,
Моргае Лявонь.
Пайшла лямпу запаліла,
На Лявоня пагразіла:
— Перастань Лявонь.
Памагаў Лявонь,
Снаваць бабе лён.
Снаўніца ноччу скрыпела
Як работа надаела —
Спалі пад радном.
Многа год і дзён
Спалі пад радном.
Ільняну вопратку насілі,
Сонцу латамі свяцілі,
Гадавалі лён —
Эх! — і вырас лён —
Залацісты лён!
Усхваляваны і чаруны,
Новы, ясны, шчасцем поўны,
Сапраўдны як сон...
Эх змяніўся час!
Згніў пад плотам прач.
Пайшлі сельскія дзяўчаты
У ільняныя камбінаты!
Сёння-ж Баба — Ткач.
Баба трактар вядзе ў поле,
Сее залацісты лён.
Эх, ты доля! — светла доля!
Баба ў фабрыцы — Ткачом.
Змянілася ўсё на свеце,
Піці перастаў Лявонь.
Сёння першы ў павеце
Кантрактуе Бабам-лён!

АНДРЭЙ СОШКА

### Замест артыкула ...



Да XV гадавіны гітлераўскага нашэсця на нашыя землі.

Фота — Ю. Лей

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

# Рэкі Беларусі

Багата рэкамі Беларусь. Густой сеткай пакрываюць яны ўсю тэрыторыю рэспублікі. І калі-б выцягнуць беларускія рэкі ў адну істужку, то даўжыня яе склала-б больш 50 тысяч кілометраў. А такой сеткай можна было-б аперазаць па экватару зямны шар.

Днепр і Нёман, Бярэзіна і Буг, Прыпяць і Дзвіна, Сож і Свіслач і сотні іншых вялікіх і малых рэк нясуць свае воды паміж дрымучых лясоў, квітнеючых сенажацей, калгасных палёў, каля вёсак, праз вялікія і малыя гарады, упрыгожваюць і жывяць многія куткі Беларусі.

Амаль уся тэрыторыя Беларусі раздзяляецца паміж басейнамі трох рэк — Дняпра, Дзвіны і Нёмана, з якіх самым вялікім з'яўляецца дняпроўскі басейн займаючы большую частку плошчы рэспублікі.

Днепр — гэта найвялікшая рака Беларусі і трэцяя пасля Волгі і Дуная ў Еўропе. Агульная даўжыня Дняпра перавышае 2.280 км. Ад сваіх крыніц, якія знаходзяцца на ўсход ад горада Вязьмы аж да ўпадзення ў Чорнае мора, Днепр працякае праз землі трох братніх народаў, — рускага, беларускага і ўкраінскага. У межах Беларускай ССР знаходзіцца верхняе і сярэдняе яго цячэнне агульнай даўжынёй звыш 700 км. На тэрыторыі Беларусі Днепр прымае свае найвялікшыя прытокі як: Друць (310 км. даўжыні), Бярэзіны (590 км.), Прыпяць (902 км) і Сож (648 км). Пасля прыняцця гэтых прытокаў аб'ём вады ў Дняпры значна павялічваецца, рака стаецца шырокай і многаводнай. Вялікае значэнне Дняпра для народнай гаспадаркі Беларусі, асабліва для воднага транспарту. Па ім уніз ракі сплаўляецца беларускі лес для шахтаў Данбаса і іншых будоўляў Савецкага Саюза, з другога боку — ўверх ракі ідуць транспарты ўкраінскага вугалю для гарадоў і прамысловых прадпрыемстваў Беларусі, ідуць таксама параходы з разнастайнымі іншымі грузамі і пасажырамі. Дняпроўскі водны шлях злучае прыдняпроўскія гарады Беларусі, — Оршу, Шклоў, Магілёў, Жлобін і Рэчыцу, а таксама гарады Беларускага Палесся з Кіевам і партамі Чорнага мора.

Іншай вялікай ракой на поўначы Беларусі з'яўляецца Дзвіна, якой агульная даўжыня перавышае 1 02? км. Верхняе цячэнне Дзвіны, падобна як і Дняпра, знаходзіцца ў Расіі. У межах Беларусі знаходзіцца сярэдні ўчастак ракі даўжынёю 400 км. На тэрыторыі Беларусі Дзвіна цячэ ў высокіх, нярэдка крутых берагах сярод прыгожых, маляўнічых марэнных узвышшаў, пакідаючы па дарозе два старадаўнія беларускія гарады — Віцебск і Полацк. Не гледзячы на даволі моцна развітую рачную сетку свайго басейна, Дзвіна вялікіх прытокаў не мае. Найбольш значнымі прытокамі ў Беларусі з'яўляецца Дрыса, Лучэса, Ула і Дзісна.

Дзвіна злучае поўночныя раёны Беларусі з Балтыйскім морам. Аднак поўнаму яе выкарыстанню для суднаходства сур'ёзна перашкаджаюць парогі і перакаты параскіданыя ў розных участках ракі, на тэрыторыі Беларусі і Латвіі.

Урэшце трэцяй па даўжыні ракой Беларусі з'яўляецца Нёман, які разам са сваімі прытокамі злучае поўднёва - заходнія раёны Беларусі з Літвою і Балтыйскім морам. Крыніцы Нёмана знаходзяцца 50 км. на поўдзень ад Мінска — у мясцовасці Забалоцце. З агульнай сваёй даўжыні — 360 км. на тэрыторыі Беларусі знаходзіцца верхняе і сярэдняе цячэнне Нёмана, якога даўжыня перавышае 4?0 км.

Перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй па Нёману сплаўляліся ў Клайпеду вялікія колькасці прынёманскага лесу, які празмерна высякаўся памешчыкамі і купцамі. У сучасны момант, акрамя грузавога транспарту па Нёману адбываецца пасажырскае суднаходства, якое злучае абласны цэнтр — Гродна з Мастамі і іншымі мясцовасцямі. Найвялікшымі прытокамі Нёмана на тэрыторыі Беларусі з'яўляецца Катра, Вілія, нёманская Свіслач, Шчара і іншыя. Апошняя ўваходзіць у сістэму Агінскага канала, які злучае Нёман з Прыпяцю і Дняпром.

Агульная даўжыня суднаходнай часткі беларускіх рэк складае каля 4.000 кілометраў. Дзеля забяспечання сувязі паміж асобнымі рэкамі і рачнымі басейнамі ў Беларусі былі пабудаваны каналы: Дняпроўска-Бугскі, Дняпроўска-Нёманскі (Агінскі) і Бярэзінскі. З іх — Дняпроўска - Бугскі канал, які злучае раку Буг з Прыпяцю і Дняпром мае асабліва важнае значэнне ў сувязі з прадбачаным пяцігадовым планам, паглыбленнем і рэгуляцыяй Буга ў межах Польшчы. Такім чынам будзе створана вялікая водная магістраль, якая злучыць Чорнае з Балтыйскім морам праз Днепр, Прыпяць, Буг і Віслу.

Іншыя каналы, якія былі пабудаваны ў Беларусі ў канцы XVIII і на пачатку XIX стагоддзяў з мэтай іх выкарыстання для сплаву лесу, у сучасны перыяд у многім страцілі сваё значэнне і патрабуюць карэннай рэканструкцыі. Вялікае значэнне для суднаходства маюць таксама работы па рэгуляцыі, якія праводзяцца на многіх рэках Беларусі.

Рэкі Беларусі маюць таксама істотнае значэнне як крыніца таннай гідраэнергіі. Не гледзячы на нізінны характар беларускіх рэк і пераважна павольнае цячэнне іх вод, запасы гідраэнергіі ў Беларусі ацэньваюцца на звыш поўмільёна кілават. На базе воднай энергіі будуюцца ў Беларускай ССР многія гідраэлектрастанцыі, асабліва ў пасляваенныя гады. Многа гідраэнергіі мае паражыстая Дзвіна. Тут за гады шостай пяцігодкі будзе пабудавана буйнейшая ў Савецкай Беларусі, Віцебская ГЭС. Пабудаваны і будуюцца шматлікія калгасныя і міжкалгасныя гідраэлектрастанцыі, якія забяспечваюць электрычным токам калгасную вытворчасць і даюць святло дамам хлебаробаў.

Нямалаважнае значэнне маюць рэкі для рыбалоўства. У многіх рэках водзіцца разнастайная рыба — самы і вугры, шчупакі, судакі, акуні, ляшчы, а ў крынічных рэках дзе вада студзёная, водзіцца такая каштоўная рыба як стронга.

Асабліва прыгожыя рэкі летам. З сумежнымі квяцістымі сенажацямі і зялёнымі гаямі яны з'яўляюцца ўлюбёным месцам адпачынку працоўных. Ля многіх рэк выраслі карпусы беларускіх здраўніц.

Ю. ТУРОНАК


Караван плытаў на рацэ Прыпяць.



Рэкі Беларусі.

## Навіны навукі і тэхнікі

### ЭЛЕКТРАКАСІЛКА «КЭ-14»

Работнікі Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута механізацыі і электрыфікацыі соўгасаў сумесна з калектывам Люберэцкага завода сельскагаспадарчага машынабудавання распрацавалі канструкцыю поўнавяснай касілкі «КЭ-14». Замест механічнай трансмісіі ад трактарнага рухавіка да рабочых органаў у новай машыне выкарыстан электрапрывод. Для жыўлення яго на трактары «ДТ-54», у агрэгаце з якім працуе новая касілка, устаноўлен генератар магутнасцю 15 кілават. Пасля заканчэння сенакашэння электрарухавікі, устаноўленыя на касілцы, і генератар могуць быць зняты і выкарыстаны на іншых работах.

Электрапрывод дазволіў значна павялічыць надзейнасць машыны і зручнасць абслугоўвання, знізіць яе вагу. Сярэдняя прадукцыйнасць за дзесяцігадзінны рабочы дзень склала 77,5 гектара — на 15,5 гектара больш, чым у шыроказахопнай касілкі з механічным прыводам «КН-14», якая выкарыстоўваецца на калгасных і соўгасных палях. Важыць электракасілка на 625 кілограмаў менш. Касілка «КЭ-14» паспяхова прайшла дзяржаўныя выпрабаванні і рэкамендавана да доследна - серыйнай вытворчасці.

### УСТАНОЎКА ДЛЯ ПРЫГАТАВАННЯ СЕННАЙ МУКІ

Усесаюзны навукова - даследчы інстытут сельскагаспадарчага машынобудавання паспяхова завяршыў канструяванне агрэгата для сушкі зялёных кармоў і прыгатавання з іх сеннай мукі з высокім утрыманнем караціну (правітаміну «А»). Такая ўстаноўка створана ўпершыню ў краіне. Аб новай канструкцыі карэспандэнту ТАСС у інстытуце паведамілі:

Пры натуральнай сушцы зялёнай травы страты караціну, які ў ёй утрымліваецца, дасягаюць звычайна 80—90 працэнтаў і сухога рэчыва — да 50 працэнтаў. Гэтыя страты практычна зусім ліквідуюцца пры штучнай сушцы з дапамогай новага агрэгата. Таму сухі прадукт, які атрымліваецца з яго, замяняе дарагакаштуючы прэпарат вітаміны «А».

Агрэгат выпрабоўваўся ў падмаскоўным соўгасе «Комунарка», дзе было пераапрацавана звыш ста тон зялёнай масы і атрымана каля 25 тон сеннай мукі, якая каштавала гаспадарцы ў 36,3 капейкі кілаграм.

Новы агрэгат — стацыянарны. Ён адначасова праводзіць сушку зялёнай масы, здрабненне яе ў муку і брыкетаванне мукі.

### СТАГАВОЗ «МАЗ-5229»

Адной з працаёмкіх работ на ўборцы сена з'яўляецца транспарціроўка. Канструктары Мінскага аўтамабільнага завода стварылі стагавоз «МАЗ-5229». Гэта — вось з двума коламі, да якой прымацаваны 10 зубоў з труб з наканечнікамі. Пры дапамозе тросаў і іншых прыстасаванняў стог трактарам «ДТ-54» усцягваецца на рухомую раму стагавоза і затым дастаўляецца да фермы. Гэта робіцца амаль у пяць разоў хутчэй, чым транспарціроўка сена пры дапамозе коннай цягі.

Новы стагавоз выпрабоўваўся на машынных выпрабавальных станцыях краіны і рэкамендаван да серыйнай вытворчасці.

## ... хто смяецца апошнім

Быў 1943 год. Вясна. Беларуская вясна — раздзертая, ільняная, акрываўленая сарочка. Пад мяжою скурчыўшыся сядзеў жаваранак. Не пеў з жаласці. Родны блакіт пакрылі хмары чорных крукоў, паназначваных чорнымі крыжамі. Ад безупыннага гулу стагнала ўся зямля, ды плакала крывавымі слязмі.



Курт лежачы на высокай сцяне бункра, трымаў у губах „spiel harmonika" ды выігрываў „über alles"...

Змучанае сонца выйшла з-за зялёных вярхоў дрэў, паднялося ўгару ды знерухамела. Бачыла той самы бункр на высокай гары, на ўзлессі — абматаны калючымі дратамі, чыгунку, ды ўсё яшчэ цэлы чыгуначны мост, з якога дагэтуль не сходзілі немцы.

Да Курта падыйшоў Ганс — пагаварылі. Узялі вінтоўкі, закінулі на плечы і прадзіраючыся праз драты спусціліся ў ніз. Ішлі побач чыгункі ў напрамку мосціка, падмяніць сваіх вартавых таварышаў.

Паўль і Фрыц ужо некалькі мінут пасмейваючыся глядзелі ў іх бок.

Калі падыйшлі да іх Ганс з Куртам паказалі на поле, якое было насупраць бункра з другога боку чыгункі. Стаялі разам ды глядзелі: — двух вясковых мужыкоў мерылі свае межы ды выразна нешта ў іх па іхняму, не выходзіла. Немцы напружана глядзелі, што будзе далей. Мужыкі двухметравай тычкаю мерылі зямлю. Набліжаўся рашучы момант вызначэння мяжы.

Худы, высокі рашуча ўстраміў тычку ў зямлю ды махнуў рукамі. Грубы меншы патрахнуў галавою, выцягнуў тычку — адмерыў два крокі і па-свойму ўстраміў. І так мусіць са тры разы пераносілі тычку з месца на месца. Немцы пасмейваліся і глядзелі што будзе далей.

Мужыкі перш пачалі штурхацца, а потым і схапіліся за плечы. Высокі ніжэйшага пакаціў. Немцы рагаталі. Ніжэйшы быў мацнейшы, вылез з - пад большага, падскочыў, злавіў тычку, ды давай маласціць вялікага. Высокі пусціўся бегчы ў поле, а малы за ім. Высокі прабягаючы цераз чыгунку зачапіўся за рэйку ды выцягнуўся, а малы дабег, ды зноў тычкаю па плячах. Ускочыў высокі, ды давай хутчэй бегчы ў лес. Малы бег далей за ім, ды грэў тычкаю па спіне. Немцы за жываты браліся.



У Жэдні завыў цягнік. Зашумеў лес. Паўль і Фрыц прытрымаліся на мосціку. Цягнік хутка набліжаўся. Паравоз раўняўся з бункрам. З вакон вагонаў выхіляліся галавы нямецкіх афіцэраў, ды ўжо махалі рукамі ў іх напрамку. У адказ ім махаў рукамі ўвесь экіпаж бункра. Не відаць было канца цягніка.

Ды раптам загрукацела, як тысяча грамоў толькі рэха па лесе пайшло. Узняўся стоўп дыму. Агонь лізаў скатлаваную масу вагонаў, якія з трэскам скакалі адзін на аднаго.

Немцы стаялі аслупянелыя... Так, даражэнькія ў тым дню я мог смяяцца два разы. Самі ведаеце, што было з чаго, ды сорамна было смяяцца. Мая зямля плакала крывавымі слязмі, ды ворагам парыла пяты.

АНДРЭЙ СОШКА

